Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

# ГАЛОЎНАЕ КІРАЎНІЦТВА АДЗІНАЙ ГІДРА-МЕТЭАРАЛАГІЧНАЙ СЛУЖБЫ пры НКЗ БССР

# ДЭКАДНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ГАЛОЎНАГА КІРАЎНІЦТВА І ГІДРАМЕТІНСТЫТУТА

Адрас рэдакцыі: Менск, Шырокая 28. Галоўнае Кіраўніцтва АГМС БССР. Тэл. 24271 і 23280.

№ 19 (132) | 11—20 снежня | 1933 г.



ЗМЕСТ



## СІНАПТЫЧНЫ АГЛЯД ЗА ДЭКАДУ

Гэтая дэкада характэрна сухім, ясным надвор'ем з вельмі нізкімі тэмпературамі, якія дасягалі ў паўночных раёнах БССР да —27 —28°.

Такое паніжэнне тэмпературы выклікана ўваходам халоднага марскога арктычнага паветра, якое пранікла на нашу тэрыторыю з паўночнага ўсходу.

11 снежня БССР занята вобласцю нізкага ціску з масамі цёплага марскога палярнага паветра, дзякуючы чаму мы наглядаем у гэты дзень узмацненне вятроў, і снегапады па ўсёй краіне, а таксама досыць высокія тэмпературы паветра, якія дасягалі на поўначы краіны да —2, —3°.

12 снежня на тэрыторыю БССР уваходзіць халоднае марское арктычнае паветра, якое дае рэзкія змены ўсіх метэаралагічных элементаў: яснае неба, паслабленне вятроў да слабых, а таксама паніжэнне тэмпературы, якая ў некаторых мясцах дасягае —18, —20°.

У наступныя дні 13 і 14 снежня БССР знаходзіцца пад уплывам высокага ціску ў масах марскога арктычнага паветра.

У гэтыя дні захоўваецца сухое і яснае надвор‘е і працягваецца далейшае паніжэнне тэмпературы, якое даходзіла на поўначы рэспублікі да —27, —28⁰.

У наступныя дні 15, 16 і 17 снежня марское арктычнае паветра паступова ператвараецца ў кантынентальна-палярнае, шляхам доўгага знаходжання на кантыненце. У гэтыя дні мы наглядаем яшчэ далейшае паніжэнне тэмпературы, якая дасягала ў Барысаве да —29⁰.

18 снежня з поўначы пачынае насоўвацца на тэрыторыю БССР цёплае марское палярнае паветра, якое выклікала павелічэнне воблачнасці да поўнай, значнае павышэнне тэмпературы да —6 —7⁰ у паўночных раёнах і выпадзенне снега.

19 снежня тэрыторыя БССР ужо цалкам занята цёплым марскім палярным паветрам, якое выклікала далейшае павышэнне тэмпературы на поўначы краіны да —5⁰.

20 снежня мы наглядаем яшчэ далейшае павелічэнне вільготнасці, узмацненне вятроў, павышэнне тэмпературы, снегапады, а мясцамі і марасячыя дажджы, што ўтварае пераход к сырому і цёпламу надвор‘ю.

*І. Харлап.*

## Метэаралагічная характарыстыка за 11—20 снежня

Тэмпература паветра на працягу гэтай дэкады хісталася ў вельмі шырокіх межах. У 1-ы дзень яна роўна —5 —7⁰, прычым на поўначы вышэй чым на поўдні. 12-га ў паўночна-ўсходняй палове БССР т-ра дасягае —16 —18⁰, такім чынам зніжаецца на 10—12⁰. У паўднёва-заходняй палове падзенне значна меншае, усяго на 1—3⁰.

У наступныя дні працягваецца зніжэнне т-ры і сярэднія сутачныя т-ры на поўначы дасягаюць —24⁰, а на поўдні —20⁰. 18-га ў паўночна-заходняй палове БССР т-ра адразу павысілася прыкладна на 10⁰. 19-га і 20-га павышэнне ідзе па ўсёй БССР; 20-га маем на поўначы —2⁰, а на поўдні —5 —8⁰.

Сярэдняя дэкадная т-ра хісталася каля —12 —13⁰ і была, такім чынам, на 8—9⁰ ніжэй нармальнай. Максімальная т-ра хісталася ад +1 да —6, а мінімальная ад —20 да —28⁰.

Ападкаў за дэкаду выпала вельмі мала ад 1 да 5 мм. Выключэннем з‘яўляецца толькі паўднёвая трэць БССР, дзе выпала некалькі больш ападкаў, мясцамі нават больш 10 мм, у Жыткавічах каля 18 мм і ў Людвінаве каля 14 мм.

Выпадалі ападкі пераважна ў апошнія 2 дні дэкады.

Снегавы насціл з‘явіўся ўжо на ўсёй тэрыторыі БССР, вышыня яго на апошні дзень дэкады роўна ў большасці пунктаў каля 10 см. Амаль па ўсёй БССР 11-га наглядалася мяцель.

Вятры на працягу дэкады рэзка змянілі свой напрамак ад заходніх да паўночна-ўсходніх і нават усходніх. Сярэднія хуткасці іх невялікія 2—4 м/сек. Максімальныя хуткасці дасягалі 10—12 м/сек.

Воблачнасць хісталася ад 60 да 80% агульнага пакрыцця неба.

*Н. Малішэўская.*

# АЖЫЎЛЕННЕ АЗІМЫХ

Шматгадовыя дадзеныя паказваюць, што ў БССР значны процант азімых пасеваў гібне ад неспрыяючых умоў зімовага перыяда. Такое становішча ставіць перад працоўнымі масамі БССР, навукова-даследчымі ўстановамі, практычнымі работнікамі соц. сельскай гаспадаркі на мясцах неабходнасць дакладнага вывучэння тых фактараў, якія абумоўліваюць гібель азімых пасеваў і тым самым прыносяць вялікія страты соцыялістычнай с. гаспадарцы. Зусім зразумела, што пэўнае месца ў гэтым пытанні займаюць кліматычныя ўмовы, і вывучэнне ўплыву апошніх на становішча азімых культур мае вялікае значэнне.

Вывучэнне і ажыццяўленне агратэхнічных мерапрыемстваў, якія з'яўляюцца адным з асноўных фактараў у барацьбе за высокі ўраджай павінна сумяшчацца з вывучэннем прыроды, з вывучэннем уплыву метэаралагічных фактараў на становішча азімых, з тым каб магчыма было-б весці барацьбу з неспрыяючымі ўмовамі і збегнуць ад штогодніх страт.

У гэтым годзе Сельска-Гаспадарчым Сектарам адзінай Гідраметслужбы БССР арганізавана ажыўленне азімых на 32 метстанцыях БССР і ў 150 пунктах, якія згодна пастановы НКЗБ размешчаны па ўсім раёнам БССР—у калгасах і соўгасах. Ажыўленнем азімых ставіцца мэта даць дакладныя звесткі плануючым і гаспадарчым арганізацыям аб жыццяздольнасці азімых пасеваў, сігналізаваць аб дрэнным становішчы для своечасовага прыняцця адпаведных мер.

Ажыўленне азімых магчыма вытвараць трыма метадамі: маналітным, цукровым і водным. Найбольш простым з іх з'яўляецца маналітны метад, які не патрабуе дапаможнага абсталявання (тарэлкі, цукар і інш.). Таму ажыўленне азімых у пунктах, размешчаных у калгасах і соўгасах, прадугледжана правесці маналітным метадам, а на сельска-гаспадарчых метстанцыях цукровым метадам, перавагай якога з'яўляецца тое, што вынікі ажылення магчыма атрымаць праз некалькі дзён пасля ўзяцця пробы.

Усе паказанні па вытвару работ па ажыўленню азімых Сельска-Гаспадарчым Сектарам АГМС БССР разасланы як на метстанцыі, так і па ўсім Раённым Зямельным аддзелам БССР для давядзення іх непасрэдна на пункты—у соўгасы і калгасы. Неабходна адзначыць, што частка райземаддзелаў зусім не ўсвядоміла важнасці гэтай работы і, не гледзячы на шматлікія напамінкі як з боку НКЗБ, так і з боку Сельгасектара АГМС БССР, імі яшчэ да гэтага часу не вылучаны пункты ажыўлення і адказныя працаўнікі па правядзенню гэтай работы. Выходзячы з вышэйпаказанага Сельгассектар АГМС БССР зварачвае ўвагу ўсіх раённых зямельных арганізацый, усёй грамадскасці на неабходнасць арганізацыі ажылення азімых у соўгасах і калгасах.

Паколькі праца па ажыўленню азімых вельмі складаная, яна павінна праводзіцца пад непасрэдным кіраўніцтвам раённых аграномаў, у супраціўным выпадку выканаўцы гэтай працы могуць атрымаць няправільныя вынікі, а значыць Сельгассектар будзе няправільна інфармаваць плануючыя і гаспадарчыя арга-

## Табліца вынікаў метэаралагічных на…

| Кліматычны раён | №№ па карце | Назва станцый | Тэмпература паветра 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | | Сярэдняя | Нармальн. | Максімальная | Мінімальная | Число, калі нагляд. мінімум | Адносная вільготн. паветра за 13 г. у %% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| (Вазерны) | 2 | Дрыса[1]) | —5 | —18 | —16 | —16 | —24 | —24 | —17 | —6 | —6 | —2 | — | —13 | — | 0 | —27 | 16 | 77 |
| | 3 | Полацак[2]) | —5 | —16 | —16 | —16 | —24 | —24 | —19 | —8 | —6 | —2 | — | —14 | —5 | 0 | —28 | 15 | 84 |
| | — | Вялікія-Лукі[3]) | —6 | —13 | —11 | —14 | —22 | —23 | —20 | —8 | —4 | —3 | — | —12 | — | 0 | —26 | 16 | 86 |
| | 63 | Гарадок | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 84 | Сураж | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 7 | Нова-Каралёва[4]) | —7 | —17 | —15 | —18 | —19 | —20 | —21 | —10 | —7 | —4 | — | —14 | —6 | —2 | —24 | 17 | 84 |
| (Вадападзельны) | 8 | Лепель[5]) | —6 | —15 | —18 | —18 | —20 | —21 | —1 | —8 | —6 | —3 | — | —13 | — | —1 | —24 | 16 | 85 |
| | 75 | Плешчаніцы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 70 | Бобр | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 13 | Барысаў[6]) | —5 | —16 | —20 | —21 | —18 | —19 | —18 | —9 | —7 | —3 | — | —13 | —5 | —1 | —26 | 14 | 87 |
| | 16 | Менск[7]) | —6 | —13 | —19 | —20 | —18 | —17 | —17 | —9 | —7 | —3 | — | —13 | —4 | —2 | —25* | 14 | 85 |
| | 93 | Бярэзіна | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 23 | Мар'іна-Горка[8]) | —6 | —13 | —19 | —19 | —16 | —16 | —18 | —9 | —7 | —4 | — | —13 | —4 | —2 | —24 | 14 | 85 |
| | 25 | Асіпавічы[9]) | —6 | ? | ? | —17 | —14 | —15 | —18 | —14 | —7 | —4 | — | —12 | —5 | —2 | —24 | 14 | 80 |
| | 10 | Орша[10]) | —6 | —16 | —14 | —18 | —18 | —20 | —20 | —11 | —7 | —5 | — | —13 | —6 | —2 | —23 | 16 | 77 |
| | 19 | Горкі[11]) | —6 | —18 | —14 | —18 | —18 | —20 | —19 | —12 | —7 | —5 | — | —14 | —6 | —3 | —23 | 16 | 87 |
| (Раўнінны) | 89 | Клічаў | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 28 | Слуцак[12]) | —9 | —10 | —17 | —20 | —14 | —14 | —16 | —9 | —7 | —4 | — | —12 | — | 1 | —22 | 14 | 86 |
| | 30 | Мар.-Сосны[13]) | —6 | —10 | —20 | —19 | —14 | —13 | —15 | —11 | —7 | —5 | — | —12 | —4 | —2 | —22 | 14 | 79 |
| | 21 | Магілеў | —5 | —13 | —17 | —17 | —17 | —18 | —19 | —12 | —7 | —5 | — | —13 | —5 | —3 | —21 | 17 | 87 |
| | 73 | Чавусы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 27 | Чэрыкаў[14]) | —6 | —16 | —15 | —17 | —16 | —18 | —16 | —14 | —7 | —7 | — | —13 | —5 | —5 | —20 | 16 | 89 |
| | 191 | Касцюковічы[15]) | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 31 | Турск[16]) | —6 | —13 | —16 | —17 | —16 | —14 | —17 | —14 | —7 | —6 | — | —13 | —5 | 0 | —21 | 14 | 84 |
| | 32 | Жлобін[17]) | —6 | —11 | —16 | —13 | —15 | —14 | —18 | —14 | —7 | —6 | — | —12 | —5 | —4 | —21 | 18 | 85 |
| (Нізінны) | 33 | Жыткавічы[18]) | —7 | —8 | —20 | —20 | —14 | —12 | —14 | —10 | —7 | —5 | — | —12 | —3 | —3 | —28 | 14 | 80 |
| | 37 | Калінкавічы[19]) | —7 | —9 | —18 | —15 | —14 | —12 | —14 | —14 | —8 | —6 | — | —12 | —4 | —3 | —25 | 13 | 82 |
| | 39 | Лельчыцы[20]) | —7 | —8 | —18 | —16 | —14 | —11 | —13 | —12 | —8 | —6 | — | —11 | — | 1 | —26 | 14 | 84 |
| | 85 | Чачэрск | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 83 | Барба | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 38 | Гомель[21]) | —7 | —11 | —16 | —11 | —15 | —13 | —14 | —15 | —8 | —8 | — | —12 | —5 | —5 | —20 | 13 | — |
| | 35 | Васілевічы[22]) | —7 | —9 | —17 | —16 | —13 | —14 | —14 | —15 | —8 | —6 | — | —12 | —4 | —3 | —23 | 14 | 81 |
| | 40 | Людвінава[23]) | —7 | —9 | —19 | —17 | —14 | —12 | —16 | —15 | —10 | —8 | — | —13 | —4 | —6 | —27 | 14 | — |

[1]) мяцель (20); [2]) мяцель (11), туман (15); [3]) мяцель (11, 14); [4]) мяцель (11); [5]) мяцель (11, 20);
…туман (20); [11]) галалёд (19, 20); [12]) мяцель (16), туман (14); [13]) снегавы занос (11), туман (15);
…мяцель (11), туман (14); [20]) туман (14), мяцель (16); [21]) туман (14); [22]) галалёд, туман (20);

х **назіранняў за 11—20 снежня 1933 г.**

| лі нагляд. мінімум | Адносная вільготн. паветра за 13 г. у % | Тэмпература паверхні глебы: Максім. | Мінімальн. | Чысло, калі нагляд. мінімум | Ападкі ў мм: 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | | Сума | Снегавы насціл: Вышыня ў см | Шчыльнасць | Характарысты снегавага насцілу |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 16 | 77 | — | — | — | .. | .. | 0.2 | .. | .. | .. | .. | .. | 0.3 | 1.0 | — | 1.5 | 11 | — | роўнамерны |
| 15 | 84 | — | — | — | 3.0 | .. | 0.4 | .. | .. | .. | 0.2 | .. | 1.0 | 0 5 | — | 5.1 | 17 | 0.24 | роўнамерны |
| 16 | 86 | 0 | — | — | .. | . | .. | .. | .. | .. | 0.1 | .. | 0.1 | 0.3 | — | 0.5 | 14 | 0.22 | роўнамерны |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 17 | 84 | —2 | —28 | 16 | 3.0 | .. | .. | .. | .. | .. | .. | .. | 1.0 | 1.0 | — | 5.0 | 22 | 0.22 | роўнамерны |
| 16 | 85 | — | — | — | 0.3 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.3 | .. | 0.1 | 0.3 | — | 1.5 | 11 | 0.23 | няроўнамерн |
| — | — | — | — | — | 1.0 | 0.2 | 0.1 | 0.1 | 0 2 | 0.2 | 0.2 | .. | 1.0 | 1.0 | — | 4.0 | 10 | — | няроўнамерн |
| — | — | — | — | — | 0.1 | 0.1 | 0.2 | 0 1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 2.0 | — | 3.0 | 10 | — | няроўнамерн |
| 14 | 87 | — | — | — | 1 0 | .. | .. | .. | .. | .. | 0 5 | 0.1 | 0.3 | 1.0 | — | 2.9 | 8 | 0.15 | роўнамерны |
| 14 | 85 | —2 | —15 | 14 | 2.0 | .. | 0.1 | 0.1 | 0.1 | .. | 0.1 | 0.1 | 0.5 | 1.0 | — | 4.0 | 8 | 0.16 | роўнамерны |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 14 | 85 | —1 | —22 | 13 | 0 4 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.5 | 0.4 | 0.1 | 2.0 | — | 3.9 | 18 | — | — |
| 14 | 80 | — | — | — | .. | .. | 0.3 | 0.1 | .. | 0.1 | .. | 0.3 | 0.1 | 0.2 | — | 1.1 | 3 | 0.20 | — |
| 6 | 77 | — | —23 | 13 | 0.6 | .. | .. | 0.3 | .. | .. | .. | 0.2 | 0.5 | 1 0 | — | 2.6 | 6 | 0.16 | роўнамерны |
| 6 | 87 | —2 | —21 | 16 | 0.3 | .. | 0.1 | .. | .. | .. | 0.1 | 0.3 | 0.2 | 3 0 | — | 4.0 | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | 86 | — | —21 | 14 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 1.0 | .. | 0.3 | 0.2 | 0.3 | 1.0 | — | 3.2 | — | — | — |
| 4 | 79 | —2 | —23 | 14 | 1.0 | .. | .. | 0.1 | 0.2 | .. | .. | 0.5 | 1 0 | 1.0 | — | 3.8 | 13 | — | няроўнамерн |
| 7 | 87 | — | — | — | 1.0 | .. | .. | .. | .. | .. | .. | .. | .. | 2.0 | — | 3.0 | 4 | — | роўнамерны |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | 89 | — | — | — | 1.0 | .. | .. | .. | .. | .. | 0.4 | .. | 0 5 | 3.0 | — | 4.9 | 3 | — | роўнамерны |
| — | — | — | — | — | 0.6 | 0.1 | 0.6 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 3.0 | 3.0 | — | 7.8 | 15 | — | няроўнамерн |
| 4 | 84 | —1 | —21 | 13 | 0.3 | .. | .. | .. | .. | .. | 0.1 | .. | 1.0 | 2.0 | — | 3.4 | 8 | 0.11 | роўнамерны |
| 8 | 85 | — | — | — | 0.6 | .. | .. | 0.1 | 0.1 | 0.2 | .. | .. | 3.0 | 2 0 | — | 6.0 | 9 | 0.6 | роўнамерны |
| 4 | 80 | — | —22 | 14 | 1.0 | 0.1 | .. | 1.0 | 0.3 | 0.2 | .. | 0.1 | 1.0 | 14.0 | — | 17.7 | 14 | 0.12 | роўнамерны |
| 3 | 82 | — | — | — | 1.0 | .. | .. | 0.1 | 0.6 | .. | .. | 0.1 | 0.1 | 2 0 | — | 3.9 | 8 | 0.11 | роўнамерны |
| 4 | 84 | — | — | — | 0.5 | 1.0 | 0.2 | .. | 3.0 | ? | ? | ? | 0.2 | 1.0 | — | — | 13 | — | роўнамерны |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | — | — | — | — | 0.4 | 0 1 | .. | 0.1 | 0.2 | .. | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 5.0 | — | 6.1 | — | — | — |
| 4 | 81 | — | —22 | 14 | 0.6 | 0.1 | .. | .. | 1.0 | .. | 0.1 | 0.1 | 0.5 | 3.0 | — | 5.4 | 8 | 0.15 | роўнамерны |
| 4 | — | —3 | —21 | 14 | 2.0 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 2.0 | 3.0 | 2.0 | 1.0 | .. | 4.0 | — | 14.3 | 13 | — | — |

); 6 7): ) мяцель (1[illegible], 20), ізмаразь (13, 18); 8) мяцел[illegible] (14, 20); 9) мяцель (13, 14);
); 14) мяцель (11) [illegible]галёд (20); 15) мяцель (20); 16) мяцель (11), туман (14); 17) мяцель (11); 18) туман (14
)); 23) туман (14).

## Табліца вынікаў метэаралаг. назіранняў за 11—20 снежня 1933 г.

| Кліматычны раён | №№ па карце | Назва станцый | Вецер: Пераважаючы: Напрамак | Вецер: Пераважаючы: Хуткасць | Вецер: З максім. хуткасцю: Напрамак | Вецер: З максім. хуткасцю: Хуткасць | Інсаляцыя ў %% | Сярэдняя воблачнасць у 10-балавай сістэме: Агульная | Сярэдняя воблачнасць у 10-балавай сістэме: Ніжняя | Сярэдні стан паверхоўнага пласта глебы (на глыб. 10—15 см) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I. Паўночны (Вазёрны) | 2 | Дрыса | — | 2 | NW | 12 | — | 6 | 6 | замерзшая |
| | 3 | Полацак | W | 2 | W | 7 | — | 6 | 6 | „ |
| | — | Вялікія Лукі | NW | 4 | SW | 15 | — | 8 | 6 | „ |
| | 68 | Гарадок | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 84 | Сураж | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 7 | Нова-Каралёва | E | 4 | W | 7 | 19 | 6 | 6 | замерзшая |
| II. Пераходны (Вадападзельны) | 8 | Лепель | W | 4 | E | 10 | — | 6 | 6 | замерзшая |
| | 75 | Плешчаніцы | — | — | — | — | — | — | — | „ |
| | 70 | Бобр | — | — | — | — | — | — | — | „ |
| | 13 | Барысаў | NW | 2 | SW | 10 | | 6 | 6 | замерзшая |
| | 16 | Менск | NE | 2 | S | 7 | — | 8 | 6 | „ |
| | 93 | Бярэзіна | — | — | — | — | . | — | — | — |
| | 23 | Мар'іна-Горка | NE | 4 | SW | 14 | — | 8 | 6 | замерзшая |
| | 25 | Асіпавічы | NW | — | NE | 12 | | 8 | 5 | „ |
| | 10 | Орша | W | 2 | W | 10 | — | 6 | 6 | „ |
| | 19 | Горкі | W | 4 | W | 12 | — | 6 | 6 | „ |
| III. Цэнтральны (Раўнінны) | 89 | Клічаў | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 28 | Слуцак | NE | 4 | W | 14 | — | 8 | 8 | замерзшая |
| | 30 | Мар'іна-Сосны | W | 4 | E | 10 | — | 8 | 6 | „ |
| | 21 | Магілеў | N | 4 | NW | 7 | — | 6 | 6 | замерзшая |
| | 73 | Чавусы | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 27 | Чэрыкаў | W | 4 | W | 10 | — | 8 | 8 | замерзшая |
| | 191 | Касцюковічы | — | — | — | — | — | — | — | „ |
| | 31 | Турск | S | 2 | S | 5 | — | 8 | 8 | „ |
| | 32 | Жлобін | W | 4 | SW | 12 | — | 8 | 6 | „ |
| IV. Паўднёвы (Нізінны) | 33 | Жыткавічы | E | 2 | W | 7 | — | 8 | 6 | замерзшая |
| | 37 | Калінкавічы | NE | 4 | W | 7 | — | 8 | 8 | „ |
| | 39 | Лельчыцы | W | 4 | W | 7 | — | 8 | 8 | „ |
| | 85 | Чачэрск | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 83 | Барба | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 38 | Гомель | NE | 4 | NE | — | — | 8 | 6 | замерзшая |
| | 35 | Васілевічы | NE | 4 | NE | 10 | 14 | 8 | 8 | „ |
| | 40 | Людвінава | N | 4 | E | 7 | — | 10 | 10 | — |

нізацыі аб становішчы азімых культур. Таму райземаддзелы павінны ўдзяляць гэтай справе максімум увагі, з тым каб кожны пункт, кожны ўчастак, кожная пляцоўка назірання за азімымі пасевамі былі дасканальна вывучаны.

Кіраўнік Сельска-Гаспадарчага Сектара
Бюро Надвор'я БССР *С. Орман.*

## Умовы замярзання рэк БССР у зіму 1933-34 году і вынікі прагноза аб замярзанні

Як вядома, замярзанне рэк залежыць галоўным чынам ад ходу тэмпературы паветра. У бягучым годзе канчатковы пераход тэмпературы паветра к адмоўным тэмпературам адбыўся 16-га лістапада, і дзякуючы гэтаму з гэтага часу пачаўся асенне-ледаходны перыяд, які закончыўся лёдаставам к канцу першай дэкады снежня. У гэтым перыядзе мы мелі праходжанне трох хваль холаду ў наступным парадку: першая хваля холаду адбылася каля 20 лістапада, другая каля 30 лістапада і апошняя хваля холаду праходзіла каля 7-8 снежня.

Як паказваюць нагляданні, пры праходжанні першай хвалі холаду звычайна пакрываюцца лёдам толькі невялікія спакойныя рэчкі, пруды, вазёры і некаторыя ціхаводы. У далейшым з новай хваляй холаду лёдастварэнне ахапляе больш буйныя рэчкі, вазёры і ўчасткі рэк, і толькі з трэцяй і наступнымі хвалямі холаду рэкі замярзаюць канчаткова.

Прычым працэсы лёдастварэння пачынаюцца і праходзяць з некаторай паслядоўнасцю фаз. У пачатку паяўляюцца забераґі, г. зн. павярховы лёд у самага берага ракі, дзе маюць месца вельмі невялікія хуткасці вады. Потым узнікае сала— рыхлыя і невялікай таўшчыні льдзінкі, а ў далейшым, дзякуючы змярзанню гэтых павярховых льдзінак і ўсплыванню данага лёду, пачынаецца спачатку невялікі, а потым больш густы лёдаход, які паступова ператвараецца ў сплашны лёдаход.

Калі на рацэ мы наглядаем сплашны лёдаход, тады дастаткова адбыцца невялікай задержцы плывучых льдзінак, пры наліччы адмоўных тэмператур паветра, як шыбка пачнецца і закончыцца працэс лёдаставу.

Пяройдзем зараз к разгляданню працэсаў лёдастварэння ў бягучым 1933 годзе на рэках БССР.

У гэтым годзе мы наглядалі тып позняга і ўскорана праходзячага лёдаходу, які характарызуецца пераважным заходня-ўсходнім перамяшчэннем цэнтраў павышанага атмасфернага ціску з нязначным увaходам ядзер холада палярнага паходжання ў канцы верасня і пачатку кастрычніка.

У сапраўднасці мы мелі першае паяўленне заберагі сала на рацэ Зах. Дзвіне 16 лістапада, якое потым распаўсюдзілася к 20-му на ўсе астатнія рэкі Беларусі, а на малых рэках, як, напрыклад, Свіслачы і Ведрычы, мы маем к гэтаму часу пачатак лёдаходу.

У далейшым 21—25 лістапада наглядаецца на ўсіх рэках пачатак лёдаходу, які то паслабляецца, то ўзмацняецца, дзякуючы

праходжанню вышэйадзначаных хваль холаду, і ў канцы завяршаецца лёдаставам.

Лёдастаў адбыўся на рэках БССР у наступным парадку: 23 лістапада на р. Свіслачы, 27 лістапада—на Пцічу, далей 29 лістапада мы маем частковы лёдастаў вышэй водпаста на р. Дняпро ля Магілева, 1-га снежня—на р. Сажу ля Гомеля і на р. Бярэзіне ля м. Бярэзіно, 2-га снежня—на р. Бярэзіне ля Барысава і Бабруйска, 3-га снежня—на р. Зах. Дзвіне ля Веліжа, на р. Дняпро ля Жлобіна, на р. Бярэзіне ля Парыч і на Сажу ля Прапойска, потым 4-га снежня—на р. Зах. Дзвіне ля Віцебску, на р. Дняпро ля Рэчыцы і на рацэ Прыпяці, 5-га снежня—на р. Дняпро ля Смаленску, 8-га снежня—на р. Дняпро ля Лоева і ў апошнім 9-га снежня—на р. Дняпро ля Н.-Быхава і Холмеча.

Наогул кажучы, лёдастаў на малых рэчках адбыўся на працягу з 23 па 27 лістапада, а на буйных рэках з 29 лістапада па 9 снежня 1933 г.

У параўнанні з шматгадовымі сярэднімі тэрмінамі лёдаставу, замярзанне рэк БССР у гэтым годзе наступіла ў тэрміны, якія нязначна адрозніваюцца ад нармальных (сярэдніх) тэрмінаў канчатковага лёдастава, як гэта відаць з наступнай табліцы:

| Рака | Пост | Тэрмін лёдаставу ў 1933 годзе | Нармальны (сярэдні) тэрмін замярзання | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|
| Зах. Дзвіна | Веліж | 3—XII | 30—XI | — |
| „ „ | Віцебск | 4—XII | 8—XII | — |
| Дняпро | Смаленск | 5—XII | 8—XII | — |
| „ | Магілёў | 29—XI | 30—XI | Частковы лёдастаў вышэй водпаста адбыўся 29-XI—33 г. |
| Бярэзіна | Барысаў | 2—XII | 4—XII | — |
| „ | Бабруйск | 2—XII | 30—XI | — |
| Сож | Гомель | 1—XII | 28—XI | — |
| Прыпяць | Мозыр | 4—XII | 8—XII | — |

Гідралагічным сектарам Бюро Надвор'я БССР 29 кастрычніка быў складзен канчатковы прагноз аб тэрмінах замярзання рэк БССР у 1933 годзе, які прадугледжваў:

1) к канцу першай і пачатку другой дэкады лістапада паяўленне сала і пачатак лёдаходу на рэках БССР.

2) Канчатковы лёдастаў:

а) на рэках у пачатку першай дэкады снежня і

б) на вазёрах, каналах і малых рэках у канцы трэцяй дэкады лістапада.

Разгледжваючы апраўданасць гэтага прагноза і ўлічваючы тое, што за дапушчальную памылку пры прагнозах аб тэрмінах за такую памылку лічацца памылкі менш 7-8 сутак, пры ўмове дачы прагноза на тэрмін ня менш чым 1 месяц уперад, мы бачым, што прагноз тэрміна пачатка ўзнікнення сала і лёдаходу на рэках Беларусі быў здавальняючы, а прагноз аб тэрмінах канчатковага лёдаставу—добры.

*А. Свадкоўскі.*

---

Адказны рэдактар *П. Мамаеў*

Тэхнічны рэдактар *П. Дудкін.*

Члены рэдкалегіі { *А. Кайгарадаў*, *П. Бугаеў*

Друкарня БелАН. Гарліт № 560. Заказ № 14. Тыраж 1000 экз. 9 стар.





Москва

Софийская набережная № 2

Гидрометеоролог.

станция ЦБЮ

